**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
**Выходзіць месячна.** Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
**Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.**

# З НАРОДНЫХ ЧЫСТЫХ КРЫНІЦ

У выданьні выдавецтва „Заранка" выйшла нядаўна, надрукаваная лацініцай, цікавая й карысная кніга: Adam Varłyha. Krajovy słoŭnik Łahojščyny. New York, 1970 h.; 6+172 бач. Цана 4 дал. У кнізе, у альфабэтным парадку, больш 8000 словаў пачутых на Лагойшчыне (паўночная Меншчына) у часе ад канца стагодзьдзя XIX-га да 30-х гадоў стагодзьдзя XX-га. Пры кажным слове дадзенае яго тлумачэньне ды прыводзіцца, для лепшага зразуменьня значэньня, сказ-прыклад з гэтым словам, а часта й прымаўка, прыказка, жарт.

Слоўнік А. Варлыгі бясспрэчна важны, трывалкі й каштоўны здабытак беларускай лексыкаграфіі й беларускай ды славянскай моваведы наагул. Каштоўныя, апрача самых зарэгістраваных словаў, і дадзеныя А. Варлыгам іх тлумачэньні, дэфініцыі. Яны часта трапна перадаюць значэньне адпаведнага слова й таму слоўнік можа быць вельмі карысным пры ўкладаньні вялікага шматтомнага слоўніка жывой беларускай мовы.

Па ліку пададзеных словаў і сваёй навуковай вартасьці слоўнік Лагойшчыны стаіць у радзе гэткіх большых беларускіх краёвых слоўнікаў, як слоўнік Смаленшчыны В. Н. Дабравольскага (1914 г.), Віцебскі краёвы слоўнік М. Касьпяровіча (1927), слоўнік Чэрвеншчыны М. Шатэрніка (1929) ды двух меншых, паваенных ужо, дыялектных слоўнікаў — Глушчыны Ф. Янкоўскага (1959 і 1960) ды Мсьціслаўшчыны Г. Юрчанкі (1966). Шмат із словаў слоўніка, гэта поймы й тэрміны, што азначаюць прадметы й зьявы сялянскага штодзённага быту й дзейнасьці. Тысячы іншых маюць шырэйшы ўжытковы засяг.

Калі ахопленыя слоўнікам словы ўжытку вузка мясцовага, дыялектызмы, будуць прыцягваць увагу найперш моваведаў-дыялекталёгаў, дык тысячы іншых цікавыя кажнаму, што ў пісьме ды гутарцы карыстаецца беларускай мовай і дбае пра яе чысьціню, багацьце ды сілу вобразнага выражэньня. Асабліва карысным можа слоўнік быць працаўніком пяра, журналістым ды пісьменьнікам. Але й тым, што ані пішуць, ані друкуюць, але маюць чуткае на своеасаблівую красу старавечнага ладу роднае мовы вуха, перагортваньне балонак кнігі із скарбамі народнае лексыкі Лагойшчыны будзе раскошным духовым банкетам.

Учытваючыся ў запісаныя А. Варлыгам лексычныя багацьці беларускае мовы, даводзіцца ці раз дзівіцца, як трапна народ умее даваць азначэньні розным зьявам, рэчам і іх прыкметам, гэтаму ўсяму, што існуе, адбываецца й здараецца. Чыніць ён гэта ў духу продкамі пераказаных спрадвечных моўных законаў ды зь нязвычайна майстэрскім вычуцьцём складу й ладу роднае мовы. Вось таму дадзеныя народам назовы рэчаў і зьяваў разпораз уражаюць і сваёй прэцызыйнай дакладнасьцяй, і, адначасна, лягічнай прасьцінёй. У назовах дадзеных самым народам ня сустрэнем тае ненатуральнае штучнасьці, якая часта свомая нэалягізмам створаным навуковымі моваведамі. Поймы й словы ў мове народу вырастаюць натуральна, проста й заўсёды заканамерна із структуры й ладу тае мовы, творцаю, спрадвечным носьбітам і гаспадаром якое ён сам.

Не забывацца трэба, што народныя лексычныя багацьці, як і ўсю гармонію фанэтычнага й граматычнага ладу роднае мовы тварылі тыя, што звычайна ня зналі навет і тайнаў пісьма. Народ разьвіваў і багаціў сваю мову на аснове пераказаных вусна мінулімі пакаленьнямі спрадвечных моўных нормаў самым інтуіцыйным вычуцьцём.

Разважаючы пра майстэрства народу ды моваведаў у карыстаньні роднай мовай, на думку прыходзіць гэткая аналёгія: Хоць толькі прафэсар анатоміі знае свае мускулы-цягліцы, хоць толькі ён ведае ўсе іх назовы й функцыйную дамэтнасьць, ды з мастацкім майстэрствам сваймі мускуламі ўмее карыстацца не анатом, а спартсмэн ды балетніца. Балет-жа анатома быўбы гэткім пацешным, як танцы калісьці на кірмашох Беларусі ведамых гадунцоў слаўнае Смаргонскае акадэміі. Падобнае часта можна сказаць і пра валоданьне роднаю мовою народам з аднаго боку, а вучонымі-моваведамі з другога.

Ніжэй прыводзяцца некаторыя словы із слоўніка Лагойшчыны А. Варлыгі, словы, што ў сучаснай беларускай літаратурнай мове ці вельмі рэдка, ці й зусім не сустракаюцца, а вартыя гэтага, каб іх знаць, іх помніць ды імі часьцей і шырэй карыстацца. Характэрна, што ніводнага з гэтых словаў не падае 90-тысячны слоўнік сучаснай казённай беларускай мовы БССР, слоўнік выдадзены ў 1962 г. менскай акадэміяй навук („Беларуска-рускі слоўнік").

**Абаднець** — апынуцца ў сьвятле новага дня: Мы абаднелі, калі выяжджалі зь лесу.

**Гаравы** — жыхар гары: Яго празвалі Гаравы, што ён жыве на гарэ.

**Гранка** — зростак ягадаў: Гранкі рабін чырванелі на сонцы.

**Грашаўны** — чалавек з грашыма: Гэта баба грашаўная.

**Дагода** — дагаджаньне: У дагоду чужынцу прадаюць свой народ.

**Лада** — рыхтаваньне: Тут болей лады да сьвята, як самога сьвята.

**Ладзіцца** — рыхтавацца: Ён ужо даўно ладзіцца ў дарогу.

**Налада** — паправа: Налада гадзіньніка каштавала пяць рублёў.

**Наварот** — беспадстаўная напасьць грамадой: Чаму гэткі наварот на гэтага чалавека?

**Надрабна** — на дробныя часткі: Капусту крышы надрабна.

**Налога** — увычка: Курэньне гэта налога.

**Нарэдчас** — часамі: Нарэдчас і дзядзька да нас прыяжджае.

**Натоўсткі** — на таўсьціню: Той дубок быў натоўсткі з таўкач.

**Находны** — прыбылы: Маскалі-стараверы народ находны — яны прыйшлі да нас з Маскоўшчыны.

**Находны** — знойдзены: Гэты нож находны — тата яго нашоў у лесе.

**Патопа** — „Сьцеражыся душа! — патопа ідзе!" — жарт-прымаўка перад першай чаркай.

**Повід** — „А ідзі ты ў катнія рукі, каб твайго тут і повіду ня было!"

**Порад** — радавая спадчына: Ён зладзейскага пораду, яго ад зладзейства не адвучыш.

**Слых** — послух: У дзядзькі дзеці ў слыху жывуць — яны бяз пытаньня з хаты ня выйдуць.

**Сталіца** — сталыя, паважныя людзі: Там сабралася толькі сталіца, а блазнам там няма месца.

**Старалы** — рупны: Старалы чалавек усюды знайдзе для сябе работу й хлеб.

**Удаўнены** — Удаўненую хваробу цяжка лячыць.

**Упатайкі** — патаемна: Дамінік упатайкі ад бацькі прадаў валы.

**Упобачкі** — побач: Юстын усю дарогу ішоў упобачкі з канём.

**Упросы** — настойлівыя просьбы: Я і бяз гэтых упросаў прышоў-бы, каб мог.

**Утравець** — парасьці травой: Наша бульба ўтравела.

**Ужон** — Які ўжон, такі й умалот.

**Ухінуць** — увярцець: Ухіні, дзеткі, хлеб у вабрус ды палажы сярод стала.

**Ваёўны** — ваяўнічы: Даўна Швэды былі ваёўным народам.

**Зайздрывы** — зайздросны: Зайздрывы чалавек ніколі сваёй зайздрасьці не ўтаймуе.

**Замакрэцца** — стацца мокрым: Адлега будзе, бо сьцены замакрэліся.

**Зборня** — вялікая сьвятліца, дзе адбываюцца зборкі: Пісар вышаў на зборню ды стаў чытаць аб'яву.

**Р. Максівовіч**

# „БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ"

**(Артыкул другі)**

Аднэй з галоўных пазытыўных якасьцяў „Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" — гэта ейны ня гэтак папулярызатарскі, як інфармацыйна-навуковы характар у вабсягу й на ўзроўні, адпаведным і магчымым для энцыкляпэдычнае працы ў савецкіх абставінах. Мы адзначылі ўжо ў нашым папярэднім артыкуле пра „Беларускую Савецкую Энцыкляпэдыю", што на ейным асьвятленьні тэмаў і пытаньняў палітычных, сацыяльных, грамадзянскіх ды часткава гуманітарных галінаў навукі й культуры, нажаль моцна заважыла палітычная тэндэнцыйнасьць, як вынік строга абавязваючага ў СССР марксыцка-ленінскага клясавага падыходу да зьяваў і падзеяў мінуўшчыны й сучаснасьці. Але там, дзе клясавы прынцып не ўваходзіў у супярэчнасьць з аб'ектыўнай праўдай, паасобныя тэмы й праблемы асьветленыя ў васноўным на адпаведным навуковым узроўні.

Другой важнай якасьцяй „Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" тое, што яна хоць-бы ў сваёй імкнёнасьці беларуская і мовай і ў вялікай ступені й зьместам ды ахапленьнем тэмаў і праблемаў, што маюць беспасярэдняе дачыненьне да Беларусі. З тэмаў агульнага характару або датычных да іншых паасобных краёў і народаў, уведзеныя ў Энцыкляпэдыю адно найважнейшыя. Затое абсяг тэмаў чыста беларускіх, а таксама й агульных, што маюць выразнае дачыненьне да Беларусі, больш шырокі й бадай вычарпальны, а ці рэдка расьцягваецца й на мала ведамыя й дробныя факты.

Прыкладам, вельмі рэдка каму, навет азнаёмленаму зь гісторыяй беларускай культуры, ведамае імя „Ананія". А ў Энцыкляпэдыі высьняецца, што „Ананія" — „беларускі рэзчык па дрэве 2-ой палавіны 15-га — пачатку 16-га стагодзьдзя", згадваюцца некаторыя дадзеныя зь ягонае дзейнасьці ды падаецца ілюстрацыя ягонае рэзьбы. Таксама калі хтосьці й чуў слова „асочнікі", дык мог ня ведаць, што яно значыць. А ў Энцыкляпэдыі чытаем, што гэта „сяляне ў Вялікім Княстве Літоўскім, галоўным абавязкам якіх была ахова пушчаў вялікага князя ці буйных фэўдалаў і ўдзел у паляваньні". Або вось слова „асяніны", ці ягоны сынонім „ракоўшчына". З Энцыкляпэдыі даведваемся, што гэта „від падатку на Беларусі ў 15-18-ым стагодзьдзях; восенскі збор папамі збожжа са сваіх прыхаджан; рэштка старадаўнай дзесяціны — дзясятай часткі прыбытку".

Пра жаданьне як найпаўней ахапіць беларускі матар'ял, добра сьветчыць, прыкладам, факт, што ў Энцыкляпэдыю ўведзены навет народны казачнік Аземша Іван, ад якога этнограф Аляксандар Сяржпутоўскі запісаў быў 32 народныя казкі й потым зьмясьціў іх у сваім зборніку 1911 году „Казкі і апавяданьні Беларусаў Паляшукоў".

Бяручы на ўвагу той факт, што гісторыя Беларусі яшчэ й да сяньня вельмі слаба дасьледаваная, можна думаць, што далёка ня ўсе ейныя зьявы, факты й асобы, што павінны былі-б знайсьці сваё месца ў Энцыкляпэдыі, уведзеныя ў яе. Але й за тыя гістарычныя рэдка ведамыя або й зусім няведамыя раней факты, што знайшлі сваё асьвятленьне ў Энцыкляпэдыі, належыцца нашым гісторыкам — аўтарам гістарычных зацемак у Энцыкляпэдыі заслужанае прызнаньне.

Не абыйшлося ў Энцыкляпэдыі й бяз непрабачальных пропускаў. Прыкладам, газэта „Літаратура і Мастацтва" за 24 ліпеня надрукавала нэкралёг Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі на сьмерць беларускага паэты Алеся Астапенкі. У нэкралёгу пададзена, што Алесь Астапенка 1920 году нараджэньня, браў удзел у баёх у вапошняй вайне, быў цяжка паранены, а па вайне працаваў у маладзежных рэдакцыях Беларускага радыякамітэту, у рэдакцыях газэты „Чырвоная зьмена" й часапісу „Беларусь", выдаў два зборнікі сваіх вершаў. Жадаючы давецацца пра Алеся Астапенку больш, заглядваем у першы том „Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі". На жаль, там ён ня фігуруе зусім.

Важнай і каштоўнай асаблівасьцяй „Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" й тое, што, апрацоўваючы агульныя пытаньні сусьветнага абсягу, яна даволі шырока бярэ ўвагу на іхную сувязь зь Беларусяй. Прыкладам, пад словам „альманах", пасьля агульнага азначэньня й гісторыі альманахаў у некаторых народаў, падаецца больш поўная гісторыя альманахаў беларускіх, пачынаючы ад навукова-літаратурных разьдзелаў „Календара Северо-Западного края" пад рэдакцыяй прафэсара М. Даўнара-Запольскага й „Северо-Западного календаря" А. Слупскага, абодвых з канца мінулага стагодзьдзя, а канчаючы беларускім „Днём паэзіі" й літаратурным зборнікам беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў у Польшчы „Белавежа".

Падобна й пад словам „анталёгія", пасьля агульных вестак, даецца вычарпальная гісторыя гэтага тыпу беларускіх выданьняў: ад зборніка „Дыямэнты беларускага прыгожага пісьменства" 1919 году да апошніх трохтамовае „Анталёгіі беларускае паэзіі" 1961 году й двухтамовае „Анталёгіі беларускага апавяданьня" 67 году. Узноў-жа, пра Акадэмію навукаў СССР і Акадэміі навукаў паасобных саюзных рэспублікаў даюцца ў Энцыкляпэдыі кароткія зацемкі, затое пра Акадэмію навукаў БССР знаходзім даўжэйшы артыкул, у якім пададзеная гісторыя разьвіцьця Акадэміі ды пералічаныя ў храналягічным парадку ўсе ейныя прэзыдэнты, ганаровыя й звычайныя акадэмікі, а таксама акадэмікі-карэспандэнты.

Гэткі-ж прынцып тарнуецца і ў дачыненьні да ілюстрацыяў. Прыкладам, да артыкулу „азёры" дададзеныя дзьве ілюстрацыі чорна-белыя й 6 каляровых. Усе яны датычаць да азёраў Беларусі. Да артыкулу „Адзеньне" дададзена 46 каляровых ілюстрацыяў: зь іх 28 беларускае нацыянальнае вопраткі сучаснае і ў мінулых стагодзьдзях ды 18 ілюстрацыяў народнае вопраткі народаў СССР.

У шмат якіх рэцэнзіях на першы том „Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" адзначалася, што ў самой мове Энцыкляпэдыі выявілася здаровая тэндэнцыя высьцераганьня ад штучна створаных штампаў і калькаваньняў з расейскае мовы, замiж якіх уведзеныя словы з народнае мовы. Нажаль, гэтая тэндэнцыя да чысьціні й культуры мовы ў Энцыкляпэдыі далёка няпоўная, адно часткавая й незаўсёды пасьлядоўная. І крытык Уладзімер Юрэвіч у сваёй рэцэнзіі ў „Полымі" добра зазначыў, што ў мове, асабліва ў тэрміналёгіі, кажучы ягонымі словамі, „цяжка шукаць лёгіку там, дзе ўвесь час азіраюцца на іншую мову, забываючы законы свае мовы".

Не зважаючы, аднак, на агульную палітычную тэндэнцыйнасьць, строга абавязваючую ў Савецкім Саюзе, ды на некаторыя іншыя недахопы й агрэхі, у тым ліку і ў мове, аўтары й рэдактары Энцыклядыі, відаць, стараліся зрабіць усё магчымае ў сяньняшніх абставінах, каб гэтая першая „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя" была на як найвышэйшым узроўні з кажнага гледзішча й сваім зьместам найбольш беларуская. І ў васноўным можна згадзіцца з ацэнаю савецкіх крытыкаў і рэцэнзэнтаў, што „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя" выдатная зьява ў культурным жыцьці Беларусі.

**Ст. Станкевіч**

# ТРЫ ЧЭМПІЁНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ

Тры дні да менскага стадыёну „Дынама" была прыцягнутая ўвага шматлікіх аматараў спорту. Тут разыгравалася пяршынство Савецкага Саюзу 1970 году па лёгкай атлетыцы.

Зразумела, што беларускія аматары спорту асаблівую ўвагу аддавалі сваім земляком, чакаючы ад іх пасьпяховага выступленьня. І вось першыя апладысмэнты дастаюцца дваццацігадовай студэнтцы Менскага Інстытуту Фізычнай Культуры Алі Сьмірновай. З вынікам 6 мэтраў 35 цэнтымэтраў яна сталася чэмпіёнкай СССР па скачкох у вышыню.

Летась беларускі 31-гадовы бар'ерысты Віктар Баліхін зь Берасьця з другой прыступкі п'едэсталу гонару перамясьціўся на самую верхнюю. І вось цяпер у Менску Віктар абараніў свой тытул, стаўшыся другі год запар чэмпіёнам. Яму і ўручылі залаты мэдаль.

Бег на паўтаракілямэтровую адлегласьць заўсёды глядзіцца зь вялікім напружаньнем. Із старту тон задаў малады беларускі спартсмэн, нядаўна чэмпіён школьных спартакіяд, Міхаіл Жалабоўскі. І вось гучаць над стадыёнам словы судзьдзі-інфарматара: „Чэмпіёнам СССР у бегу на 1.500 мэтраў стаўся беларускі спартсмэн Міхаіл Жалабоўскі. Ягоны час — 3 мінуты 41,2 сэкунды".

Сярод мацнейшых выступалі яшчэ тры беларускія спартсмэны — Андрэй Міхнавец, Аляксей Балтоўскі і Уладзімер Амврос'еў. Варта тут адзначыць, што сем маладых беларускіх лёгкаатлетаў у гэтыя-ж дні спаборнічалі на чэмпіянаце Эўропы сярод юніёраў у Парыжы. І тэлеграф прынёс адтуль радасныя весткі: беларускія бягуны Сяргей Каровін, Аўген Гаўрыленка і Аляксандар Жыдкіх сталіся прызёрамі міжнароднага турніру. Магчыма іх удзел на Усесаюзным чэмпіянаце дадаў-бы ў беларускую скарбонку яшчэ некалькі мэдаляў. („Настаўніцкая газэта". 19. IX. 70 г.).

# СТАТЫСТЫКА АЗН І БЕЛАРУСЬ

Нядаўна ў выдавецтве АЗН у Нью Ёрку выйшаў статыстычны гадавік за 1969 год. Гэта ёмістая кніга вялікага фармату, у дзьвюх мовах — ангельскай і француской — з дадзенымі пра ўсе дзяржавы, што ўваходзяць у склад АЗН, у тым ліку й пра Беларусь. Дадзеныя пра Беларусь улучаюць у сябе статыстыку жыхарства, натуральнага прыросту, сьмяротнасьці, вытворчасьці бульбы, жыта, пшаніцы, малака, масла, маргарыны, віна, піва, табачных вырабаў, вырабаў нітак, тканінаў, электраэнэргіі, лік тэлевізараў, радыяпрыймальнікаў, настаўнікаў і студэнтаў. У некаторых катэгорыях дадзеныя прыводзяцца й за папярэднія пяцьдзесятыя й шэсьцьдзесятыя гады.

Мяркуючы аднак паводля гэтага гадавіка, із статыстычнаю службаю Беларускае ССР ня ўсё добра, бо ў некаторых катэгорыях за некаторыя гады пра БССР чамусьці нічога не падаецца, хоць за тыя-ж гады для Савецкага Саюзу й Украінскае ССР статыстыка прыводзіцца. Гэтак, прыкладам, для БССР за гады 1952-56 няма дадзеных пра вытворчасьць жыта, пшаніцы, не пададзена ліку тэлеграмаў за гады 1953, 67 і 68, не пададзена колькасьці вытворчасьці піва й табачных вырабаў за гады 53 і 61. Не зважаючы на гэтыя недахопы пра Беларусь даецца ўсё-ж ладна інфармацыі ў новым гадавіку АЗН, якім шмат хто будзе карыстацца ў самых розных краёх сьвету.

Яшчэ колькі гадоў таму ў статыстычных даведніках АЗН дармо было шукаць дадзеных пра Беларускую й Украінскую ССР, як пра асобныя дзяржавы. Статыстыка падавалася адно пра Савецкі Саюз. Прыкладам, у „Дэмаграфічным Гадавіку АЗН 1960 году" ніякіх дадзеных ні пра Беларусь ні пра Украіну апублікавана ня было. Апошнімі часамі практыка гэтая зьмянілася на лепшае. Абедзьве рэспублікі, БССР і УССР, здабылі ўрэшце на форуме АЗН статыстычную „самастойнасьць".

# АНТЫЛЕНІНСКАЯ ВЫСТАЎКА Ў ТАРОНЬЦЕ

2-13 лістапада сёлета ў памешканьні Бібліятэкі новай Таронцкай ратушы адбудзецца Антыленінская Выстаўка кніжак, дакумэнтаў і інш., удзел у якой возьмуць і Беларусы. Выстаўка была адобраная ўсімі сябрамі Гарадзкой Рады Таронта за выняткам аднаго.

Згаданая Выстаўка ладзіцца ў супрацьвагу тэй праленінскай выстаўцы, што адбывалася тут-жа ў красавіку сёлета.

# ЗБК НА ЮБІЛЕЙ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Згуртаваньне Беларусаў Канады адзначыла 60-ыя ўгодкі жыцьця Ларысы Геніюш Літаратурным вечарам, які адбыўся 27 верасьня ў Беларускім Рэлігійна - Грамадзкім Цэнтры ў Таронта.

Настраёвым фонам для ўрачыстасьці былі апетыя Паэткай юргіні... скрозь юргіні, беларускія „Дываны — маладосьць, прыгажосьць, гоман сэрца жывы й здаровы", „горкі саматканых паяскоў цудоўных", ручнікі й палотны „спрадзеныя тонка, вытканыя туга". Фатаграфіі Паэткі ранейшыя й робленыя ў дзень сёлетніх нарадзінаў, абодвы ейныя зборнікі: Праскі „Ад Родных ніў" і Менскі „Невадам з Нёману", выразкі публікацыяў аб Ларысе Геніюш зь беларускай і іншамоўнай прэсы дапаўнялі наглядную ілюстрацыю да дакладаў і рэцытацыі твораў Паэткі.

Урачыстасьць адчыніў Заступнік Старшыні ЗБК сп. Вячаслаў Касьцюкевіч, які перадаў голас для ўводнага слова аб Паэтцы Д-ру Вінцэнту Жук-Грышкевічу, а пасьля для дакладу на тэму: „Ларыса Геніюш — Яе жыцьцё й паэтычная творчасьць" — Раісе Жук-Грышкевіч.

Ларыса Геніюш, як яна сама гаворыць, паходзіць із старога беларускага роду Міклашэвічаў. Нарадзілася 27. 7. 1910 г. у Жлобаўцах Ваўкавыскай воласьці Горадзенскага павету. Польская пачатковая школа й польская гуманістычная гімназія ў Ваўкавыску — ейная адукацыя. „Беларускай школай — кажа Паэтка — былі для мяне нашыя сяляне й вёска, асабліва моладзь. Яе долю перажывала я ў сваім, можа крыху дзікім, але вельмі гарачым сэрцы". У 1934 г. выйшла замуж за Д-ра Янку Геніюша, „які першы даў мне нашы кніжкі, адкрыў мне вочы на мінуўшчыну нашу й крыўды, якія мы цярпелі на нашай роднай зямлі. Чытаў мне Купалу".

У 1938 г. Паэтка выехала з маленькім сынам у Прагу, дзе жыў і студыяваў яе муж. Пачалася вайна. „Сэрца пачало бушаваць ахвотай да творчай запраўднай працы для Краю". Паэтка пачала пісаць, бо як яна далей кажа, „Сяньня, калі знаю больш нашу мінуўшчыну, нашы крыўды й нашы правы — не магу ня пісаць, ня клікаць сваіх дарагіх братоў да барацьбы... Не магу стрымаць ужо гэтай буры, якая сабралася ў набалелых грудзёх з крыўды, слёзаў і болю нашай зямлі!" — пісала Паэтка ў 1941 г.

Канец Другое Сусьветнае Вайны застаў Ларысу Геніюш з мужам і малым сынам у Празе, якая апынулася за зялезнай заслонай. У 1948 г. іх арыштоўваюць і высылаюць у лягеры на поўнач СССР на 8 год. У 1956 г. іх звальняюць і дазваляюць вярнуцца ў родную Зэльву, на бацькавіну мужа, дзе яны й жывуць сяньня ў старым доме Геніюшаў. Др. Ян Геніюш працуе ў раённым шпіталі лекарам, а Паэтка даглядае хатняй гаспадаркі, гадуе ў гародзе раскошныя юргіні й піша.

Далей прэлегэнтка перайшла да агляду паэтычнай творчасьці Паэткі. Ларыса Геніюш, як паэтка, дэбютавала ў травені 1940 г., калі паказаўся ў друку ейны першы друкаваны верш „Беларуска". Піша яна цяпер шмат і ўжо ў 1942 г. выходзіць у Празе першы зборнік яе вершаў „Ад Родных Ніў". Рэдагаваў яго „на грамадзкіх асновах" Др. Вітаўт Тумаш, выдаў — Беларускі Камітэт Самапомачы ў Бэрліне, надрукаваны быў ён у Празе й меў такую дэдыкацыю: „Братом і сёстрам на чужыне прысьвячую".

Асноўны тон творчасьці зборніка — нацыянальна - патрыятычны. Пранікае ён і ў вершы бытавыя, пэйзажныя, любоўныя й рэфлексыйныя. Як прыклады бытавых вершаў прэлегэнтка зацытавала ўрыўкі з апісаньня жніва й верша „Лён", які мае й фальклёрны характар: „То ня сонца пазалотай пакацілась на загон, то ня восень, — ля балота загарэўся пышны лён..."

У пэйзажных вершах паэтка атожсамляе прыроду з чалавекам. Нёман для яе — друг, воін, рыцар, Крывіч. У вершы „Нёман" кажа:

„Крывіч ты дастойны, ты волаце наш, калышаш народнае імя! Ніякая недругаў нашых мана нам сэрца твайго не адыме". І, як чалавек, Нёман „вясёлы ля берагу" строгі ў глыбі, як вочы дзявочыя сіні". У любоўных вершах, каханьне да дзяўчыны, ці хлапца рывалізуе й супастаўляецца з каханьнем да Краіны. Для прыкладу былі прыведзеныя ўрыўкі зь вершаў „Спатканьне" й „ Старажытная Сага".

Ларыса Геніюш, як мы, эмігрантка ў тузе за Бацькаўшчынай ідэялізуе прыгажосьць свае, як яна кажа, „Краіны шчасьця" і свой гімн ёй канчае так:

О Краіна ясных, незабыўных дзён!
О Краіна ясных, незабыўных дзён!
На шырокім сьвеце не найду прытулку,
ня прывыкну сэрцам да чужых старон!

Тужыць яна па сваёй краіне й па сваёй песьні: „Запяі мне песьню **нашу, не чужую,** з шмарагдовых гоняў ды бароў, што я сэрцам вечна на чужыне чую сярод думаў зорных вечароў".

Разам з тугой Паэтка вуснамі старой маткі, што засталася дома, заклікае братоў і сёстраў на чужыне не забывацца й ня выракацца Беларусі. Матка накарміла чужынца, бо можа хто яе сына „пакорміць таксама", і просіць:

Можа спаткаеш, такі цёмна-русы,
скажаш, матуля яго тут чакае.
Хай не забудзе сваёй Беларусі,
хай не зрачэцца радзімага краю...
(„Хата").

25 год пасьля выхаду ў сьвет зборніка „Ад Родных ніў", у 1967 г. выходзіць у Менску другі зборнік вершаў Ларысы Геніюш „Невадам з Нёмана". Рэдагаваў яго „на грамадзкіх асновах" Уладзімер Караткевіч. У зборніку гэтым дзьве трацiны вершаў гэта перадрук із зборніка „Ад Родных ніў". Тыя вершы зь першага зборніка, што ўвайшлі ў другі — у большай часткі зьмененыя так, што зь іх выкінутыя строфкі з моцна нацыянальным зьместам, а словы такія, як Крывіч і некаторыя з рэлігійным зьместам замененыя іншымі.

Трэйцяя частка вершаў зборніка „Невадам з Нёмана" — гэта вершы паваенныя й пасьлялягерныя. Тон гэтае новае творчасьці ў васноўным той самы — нацыянальна-патрыятычны, але часта з нотай мінорнай, пакутнай. Ня сустрэнеш у Ларысы Геніюш ані пахвальных гімнаў партыі, ані рэжыму. Пяе затое Паэтка хвалу беларускім героям і волатам, хвалу роднай мове. Аб Кастусю Каліноўскім кажа:

Хвала таму, хто вылецеў на волю,
хвала таму, хто праўду ў сэрцы нёс,
хвала таму, хто зь пекла, мукаў, з болю
у цёмных сілаў вырываў наш лёс.

А ў вершы „Скарына", які

„...апавяшчае ўрачыста ўсім:
„Бог пусьціў мяне ў сьвет з гэтай мовай".

паэтка разважае:

Можа словы былі, як загад,
гэту мову пакутныя ўнукі
захавалі пад стрэхамі хат
для сьвятла, для дабра, для навукі...
і ад імя народу прыракае:

Загад продкаў у сэрцы ня зьгіне!
Будзем думаць, вучыцца, тварыць
так, як ты,
ў сваёй мове,
Скарына.

У паэме „Куфар", якой замыкаецца зборнік „Невадам з Нёмана", паэтка пяе гімн беларускай жанчыне-салянцы, ёйнай працы, яе дбайлівай натуры, чулай на прыгажосьць душы, яе творчым здольнасьцям, апявае беларускі сялянскі быт, старыя беларускія звычаі, вераваньні й мараль.

Веру ў жыцьцяздольнасьць і непераможнасьць беларускага народу — у прыгожай форме з высокай нацыянальнай годнасьцю выражае ў вершы „Зубры". Самавітых, вытрывалых і непакорных, з шляхотным норавам зуброў раўняе да духовых асілкаў беларускага народу й запэўняе, што „да такіх належыць зямля!" Дарма, што „Усе прыходзілі усе іх нішчылі... а яны грамадой недалічанай страпянуцца й зноў жывуць", і

Калі пушча цьвіце пралескамі,
плешча сонца вясной з гары, —
беларускія, белавескія,
з новай сілай равуць зубры.

А сама Ларыса Геніюш, якой Беларусы Канады аддаюць сваю пашану й складаюць найлепшыя пажаданьні, ці-ж не трывалая і не непакорная, калі заяўляе:

Маю душу ў спакоі пакінь,
дум крылатых ня стаў на калені,
нат вачэй наднямонская сінь
пацямнела ў адчаі цярпеньняў.
Ня скрываю няспутаных дум,
узіраюся сьмела й проста,
сваёй сьцежкай наперад іду —
Юдаў твар для мяне не сяброўства?!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# АПОСТАЛЬСКІ ВІЗЫТАТАР ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ НАВЕДАЎ КАНАДУ

На пачатку кастрычніка Беларусы Таронта й ваколіц мелі гонар гасьціць Апостальскага Візытатара для Беларусаў Яго Эксцэленцыю Біскупа Часлава Сіповіча.

4 кастрычніка, у нядзелю Яго Эксцэленцыя адслужыў у каталіцкім касьцеле Сьв. Пётры ў Тароньце Сьв. Літургію ў усходнім абрадзе. Слухалі яе каталікі й праваслаўныя, сябры ЗБК й БНА. У казаньні, што мела за выхадны пункт цуд — уваскрашэньне Хрыстом памерлага, Біскуп Сіповіч прыгожа прадставіў, што ўсё добрае й прыгожае на сьвеце, а асабліва добрыя й карысныя дасягненьні людзей ёсьць цудам Божым. І гэтак, як сьведкі цуду Хрыстовага ўзрадаваліся й сталі хваліць Хрыста, так мы сяньня павінны цешыцца з пазытыўных дасягненьняў нашых бліжніх, а не, як гэта часта бывае, за дасягненьні нашых братоў замест радасьці выяўляць злую зайздрасьць.

Пасьля Багаслужбы прадстаўнікі ЗБК запрасілі Яго Эксцэленцыю й усіх прысутных суродзічаў на абед у Беларускі Рэлігійна - Грамадзкі Цэнтр. У часе абеду Яго Эксцэленцыя Уладыка Часлаў на просьбу прысутных расказаў нам пра жыцьцё, дзейнасьць і дасягненьні Беларусаў у Ангельшчыне, а асабліва ў Лёндане. Расказаў нам пра Беларускую Школу, Беларускую Бібліятэку й Музэй, пад які нядаўна закуплены адмысловы будынак, аб рэдкіх і цэнных экспанатах зь беларускае культурнае спадчыны. Расказаў нам пра дзейнасьць і значаньне Англа-Беларускага Таварыства, ды нарэшце запрасіў нас усіх на ўрачыстасьць адкрыцьця Беларускага Музэю ў Лёндане, што адбудзецца ў наступным годзе.

З пытаньняў даваных пасьля Уладыку Часлаunion відаць было, што Беларуская Школа й інтэрнат пры ёй выклікалі ў прысутных найбольшае зацікаўленьне.

Сустрэча зь Яго Эксцэленцыяй Біскупам Чаславам Сіповічам была для нас ня толькі мілай і прыемнай, але й вельмі карыснай. Як казаньне так і даклад былі пажывай для душы й розуму — і з пункту гледжаньня хрысьціянскага, і з нацыянальнага.

Мы ўсьведамілі сабе значаньне й патрэбу Беларускага Музэю, ды патрэбу нашае фінансавае падтрымкі для разбудовы яго.

**Р. Ж-Г.**

**Чытайце, выпісвайце,**
**пашырайце часапіс Беларусаў**
**у Вольным Сьвеце**
**„БЕЛАРУС"**

# „З СЭРЦАМ НАШЫМ — КАЛОЖА ЎЗРАСЛА"

Паміж прачулымі вершамі Вольгі Іпатавае ёсьць адзін, які спакідае анйбольшае ўражаньне. Нібы адлітаваны продкамі зь медзі й срэбра вечазы звон, ён абуджае адвечныя патрыятычныя пачуцьці. Магчыма вы ведаеце яго, а калі не, дык дазвольце пазнаёміць вас зь ім:

Ад сонца засланіўшыся далоняй,
Туманам сівым атуліўшы плечы,
Стаіць вякі над Нёманам Каложа,
Нібы жанчына ў чаканьні вечным.

Калісьці да каханага за горад
Насустрач бегла верасам калючым,
А потым скамянелая ад гора
Ўрасла навек у нёманскія кручы.

За ёю цёплых ліўняў агарожа,
Над ёй — смуга надзей і далячыняў,
Стаіць вякі над Нёманам Каложа
Сівою беларускаю жанчынай.

У Горадні, на стромкім беразе Нёману, паблізу ад утоку ў яго рэчкі Гараднічанкі, здаўных-даўна ўзвышаецца Барысаглебская царква. Кажуць, што бавячыся каля яе знайшлі неяк дзеці цагліну з адзнакай — 1064, але паводля народнага паданьня, яна пабудавана тутэйшымі князямі Барысам і Глебам, якія ўладарылі па сьмерці ў 1142 годзе свайго бацькі Ўсевалада. Упяршыню ў гісторыі і горад і яе згадвае пад 1183 г. Іпацьеўскі летапіс у тэксьце: „У тое-ж лета Горадня згарэла ўся і царква мураваная ад блішчэньня маланкі і ўдараў пяруна". Праз трыста год Вітаўт, паланіўшы 11 тысяч жыхароў Пскоўскага прадмесьця Каложы, асяліў іх вакол Барысаглебскае царквы і таму яна дастала назоў Каложскае, або ў цёплым народным скарачэньні — Каложы. Зьяўлялася яна ня толькі домам малітвы. Як сьветчыць вядомы малюнак Нюрэнбэрзкага мастака Мацея Цюндта ад 1568 г., гэтая царква мела вежу абароннага прызначэньня. Зьвернутая аўтаром згодна з праваслаўнай традыцыяй да ўсходу, Каложа сваёй вежай і заходнім фасадам, умацаванымі байніцамі, пільнавала Горадню ад крыжацкага наступу, пануючы над пераправай праз Нёман і затуляючы сабой з флянгу ейныя замкі.

Гэраічная гісторыя прымежнае Горадні шчыльна спалучаная зь ейнай Каложскай царквой. Паводля „Хронікі Быхаўца", у 1241 г. на горад напалі татара-манголы, ягоныя жыхары былі імі перабітыя, Стары замак зьнішчаны, а Каложа спаленая. Разам з горадам аднаўлялася й ягоная абаронная царква, але-ж толькі з 1283-га па 1328-ы год Горадню 12 раз абложвалі крыжакі і, не заўсёды захопліваючы замкі, яны помсьціліся на тэй-жа Каложы. Як сьветчыць у сваіх працах архімандрыт Ігнат Кульчынскі, маскоўцы ў часе Літоўскае вайны Івана Трэцяга разбурылі дах Каложскае царквы і, паставіўшы пад аховай ейных сьценаў гарматы, абстрэльвалі зь іх замкі. Не захаваліся імёны ранейшых фундатараў царквы, аднак вядома, што ў 1502 г. земскі падскарбі, маршалак і пісар гаспадарскі Вялікага Княства Літоўскага Богуш Багувітыновіч аднавіў Каложу і ў ёй-жа ён і пахаваны каля першага ад аўтара слупу. Пазьней у часы Паўночнае вайны ад абстрэлу Шведаў у царкве абваліліся дах і столь. Яе зноў старэнна адбудавалі, пакуль ня сталася яна ахвярай імпэрскага праваслаўя, што нядабразычліва ставілася да самабытных праваслаўных помнікаў Беларусі.

Яшчэ ў гадох 1842, 1844 і 1845 было заўважана, што сьцены Каложы асядаюць і трэскаюцца, бо высокі бераг, на якім яна стаіць, падмываецца Нёманам. Прыезныя архірэі, якія тады будавалі на Беларусі велічныя саборы ў маскоўскім стылі, або прытарноўвалі пад яго адабраныя ў Беларусаў каталікаў касьцёлы, не задавольнілі просьбы парафіянаў,каб дзяржава дапамагла ім умацаваць бераг, але загадалі спыніць Божую службу ў Каложы. І нарэшце 1 красавіка 1853 г., падчас вясновае паводкі, паўдзённая сьцяна царквы да правага кліраса і палова заходняй сьцяны разам із стольлю і дахам абсунуліся ў Нёман. Вернікі зьвярнуліся на гэты раз з просьбай аб дапамозе да Літоўскага мітрапаліта Іосіфа Сямашкі, спадзяючыся, відаць, што ён, як Беларус па свайму паходжаньню, дапаможа ім, але той, прыслугоўваючыся Маскве, у 1857 г. напісаў у Сынод, што: „Барысаглебская царква на Каложы не адзначаецца ніякімі архітэктурнымі й артыстычнымі (! — Ю. В.) асаблівасьцямі і не заслугоўвае такіх вялікіх выдаткаў, якія патрабуюцца на ейную паправу". Пасьля гэтага Каложы ўжо не аднаўлялі і толькі ў ейным аўтары зрабілі капліцу ды нейкі час над ёй была сьціплая драўляная паветка.

Аднак і ў сваім паруганым і ў параўнаньні зь мінулым на трэйцюю частку зьнішчаным стане засталася Каложа ўнікальнай пэрлай старое Беларусі. Аднагодак Полацкага Спаса й Віцебскага Дабравешчаньня, яна разам з тым мае свае адменныя рысы. У яе адносна больш тонкія сьцены і ня тоўстыя ды квадратовыя, а круглыя ды зграбаныя слупы, што хутчэй нагадываюць калёны, а таму ейная нутраная прастора, калісьці добра асьветляная праз шматлікія вокны, падобная да прыгожае залі. У сьценах Каложы ўмураваныя керамічныя, але па сваёй моцы бадай роўныя мэталічным збанкі, якія побач з канструкцыйнай мэтай выконвалі ролю акустычных галасьнікоў. Яны, рознае вялічыні ляжаць адны над другімі й сваймі гарлавінамі абернутыя да сярэдзіны будынку. Такія галасьнікі ёсьць яшчэ ў Сафійскіх саборах Кіеву й Ноўгараду, але іх няма там гэтулькі, як у Каложы. Потым, як трпна адзначыў у сваіх каштоўных „Нарысах зь гісторыі беларускага мастацтва" Мікола Шчакаціхін: „Форма каложанскіх галасьнікоў больш за ўсё набліжаецца да амфор Равены, — у той час, як кіеўскія, напрыклад, начыньні маюць зусім іншую форму, бадай блізкую да звычайных гаршкоў".

Дэкаратыўная аздоба сьценаў складаецца ўнізе з рознакаляровых ачэсаных валуноў, а ўверсе з пакрытых зялёнай, шэрай і сінявай глазурай маёлікавых пліткаў, якія ствараюць арнамэнтавыя крыжы й ромбы. Калі часткова ацалелая падлога зробленая з жоўтых, зялёных і карычнявых паліваных пліткаў, дык дах быў пакрыты чорнымі. Увогуле на нутранае й вонкавае аздабленьне царквы скарыстана 16 розных формаў маёлікі. І не заслугоўваюць увагі высновы тых тэндэнцыйных навукоўцаў, што сьцьвярджаюць нібы дойліды Каложскае царквы зьяўляліся эпігонамі расейскае архітэктуры, як і тых, што знаходзяць, быццам яна сугучная нямецкаму будаўніцтву ў раманскім стылі. У гэтай галіне заслугоўвае пашаны й даверу думка такіх паважных навукоўцаў, як Н. Вароній і М. Каргер, якія маючы на ўвазе ў Каложскую царкву, у сваёй „Гісторыі культуры старажытнай Русі", адзначаюць:

„Помнікі Горадні 12 стагодзьдзя нагэтулькі своеасаблівыя ў сваіх будаўнічых прыёмах і ў сваёй багатай шматкалёрнасьці вонкавага ўпрыгожаньня, што падобную шматкалёрнасьць расейская архітэктура займела толькі ў 16-17-м стагодзьдзях, а таму можна з поўным правам гаварыць аб апрычонай гараднянскай архітэктурнай школе 12 стагодзьдзя. Створаныя тут будынкі зусім арыгінальныя і ўражаюць сваёй яскравай прыгажосьцю, адрозьніваючыся тым ад старога кіева-бізантыйскага стылю".

Вельмі прыемна, што Горадзенская Барысаглебская або Каложская царква ўзятая пад дзяржаўную ахову, і трэба спадзявацца, што яе не пасягне сумны лёс Віцебскага Дабравешчаньня, якое мясцовыя савецкія падзішахі зьнішчылі ў 1961 годзе шар-бабай наўсуперак усім ахоўным граматам. Хочацца таксама думаць, што ў сучасных рэстаўратараў забракне мужнасьці на тое, каб аднаўляць зьніклыя сьцены Каложы, бо ўзровень іхніх здатнасьцяў не адпавядае натхненьню дойлідаў 12 стагодзьдзя. Трэба толькі ўмацаваць бераг Нёману і пабудаваць над Каложай шкляны футарал, або, прыгадваючы зноў добры верш Вольгі Іпатавае, з сыноўняй любоўю накінуць сівой беларускай жанчыне на галаву й плечы хустку. А яшчэ хочацца, каб да ўсіх Беларусаў дайшлі палымяныя радкі Ўладзімера Караткевіча:

І ў няпэўным хвілінным блакіце
Ўся адзіная, уся са сьвятла,
Зь небам, зь Нёманам, зь зямлёю зьлітая,
З сэрцам нашым—Каложа ўзрасла.

**Юрка Віцьбіч**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА САВЕЦКАГА ДРУКУ

### У СТРАХА ВОЧЫ ПА ЯБЛЫКУ

„У сваіх плянах „крыжовага паходу" супраць нашай краіны сацыялізму ідэялягічныя дывэрсанты вялікае месца адводзяць Савецкай Беларусі. Маецца на ўвазе перш за ўсё яе геаграфічнае становішча. Рэспубліка зьяўляецца заходнімі варотамі нашай краіны. Тут знаходзілі сабе магілу ўсе іншаземныя захопнікі, якія квапіліся на беларускія і рускія землі. Нашы ворагі, якім яшчэ сьняцца паходы на Ўсход, добра ведаюць пра масавы гераізм, мужнасьць і самаадданасьць працоўных Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Ведаюць яны і пра тое, што прыхільнасьць беларускага народу да ідэяў марксізму-ленінізму, да справы камунізму праверана і загартавана дзесяцігодзьдзямі рэвалюцыйнай барацьбы, сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва.

Імпэрыялістам вельмі хацелася-б, каб у Беларусі і цяпер, і асабліва на выпадак вайны, ня было Заслонавых і Даватараў, Партновых і Клумавых, Бумажковых і Казеяў. Вось чаму расьце брудны паток радыёперадач на рэспубліку, павялічваецца колькасьць антыкамуністычных газэт, часапісаў, кніг і іншай духоўнай атруты, разьлічанай на ідэйнае разьбраеньне савецкіх людзей. Падлічана, што больш за 600 ідэялягічных цэнтраў, разьмешчаных у капіталістычных краінах, заняты „вывучэньнем" Беларусі. Усе яны вядуць шалёную падрыўную прапаганду супраць рэспублікі" (Савелій Паўлаў: Псыхалёгія і анатомія хлусьні. „Полымя", № 8, 1970, б. 162).

### АЎТАМАБІЛЬ НА БЕЛАРУСІ

„Аўтамабіль у нашыя дні — самы пашыраны транспарт. Ён перавозіць амаль семдзесят працэнтаў грузаў і людзей. За адзін дзень у рэспубліцы на аўтамабілях грамадзкага карыстаньня перавозіцца 650 тысяч тон грузаў і больш за 2 мільёны чалавек..."

„Беларусь робіцца краем даволі разьвітых аўтамабільных магістраляў. Больш за 60 тысяч кілямэтраў дарог зьвязваюць населеныя пункты між сабой, а таксама з раёнамі й абласнымі цэнтрамі. Дзень і ноч па дарогах імчаць тысячы аўтамабіляў. Вось прыблізныя патокі транспарту на галоўных шляхох. На дарозе Масква — Менск за суткі паток аўтамабіляў даходзіць да 10 тысяч машынаў. Штодзень зь Менску па ўсіх магістралях адпраўляюцца ў рэйс 30 тысяч грузавікоў. Столькі-ж, калі ня больш, сьпяшаецца ў сталіцу..."

„Разам з павялічэньнем парку легкавых машынаў паўстае пытаньне — як палепшыць арганізацыю тэхнічнага абслугоўваньня і рамонту транспартных сродкаў, што належаць грамадзянам.

„Трэба заўважыць, што да апошняга часу гэтаму пытаньню не давалася належнай увагі. У рэспубліцы ёсьць толькі некалькі станцыяў тэхнічнага абслугоўваньня, якія могуць прыняць адначасова на рамонт невялікую колькасьць машынаў. Многія ўладальнікі вымушаныя рамантаваць свае аўтамабілі й матацыклі прымітыўным спосабам у гаражох, або шукаць прыватніка.

„Мы нядаўна пабывалі на некаторых станцыях абслугоўваньня. Скрозь тая самая бяда — не хапае запасных частак...

„Хуткі рост грузаабароту й пасажырскіх перавозак, а таксама рост парку машынаў патрабуюць сеткі добрых аўтамабільных дарог. Тыя, што ёсьць цяпер, ня ўсе адпавядаюць сучасным патрабаваньням. Нават на галоўных магістралях сустракаюцца ўчасткі з заніжаным палатном, адсутнасьцю неабходных віражоў на крутых паваротах, непарадкаванымі абочынамі й спускамі, недастаткова шырокай праезджай часткай. Да таго-ж, багата ў нас грунтовых дарогаў. Нават прыкладныя падлікі паказваюць, што амаль 40% прабегу грузавых аўтамабіляў прыпадае на грунтовыя дарогі. Яны, як ведама, выклікаюць дачасны знос агрэгатаў, шын, патрабуюць павышаных выдаткаў гаручага. Паводля падліку эканамістаў, перавоз аднаго мілёну тон грузу на адлегласьць аднаго кілямэтра па грунтовай дарозе патрабуе дадаткова 3 грузавых аўтамабіляў, 37 шын і 79 тон бэнзыны штогоду. Выходзіць, такім чынам, што праз дрэнныя дарогі мы вымушаныя штогоду для перавозкі грузаў уводзіць у эксплятацыю дадаткова некалькі тысяч аўтамабіляў, выдаткоўваць дзесяткі тысячаў шын і спальваць многія тоны бэнзыны..."

„У мінулым годзе хуткасьць руху на дарогах рэспублікі склала для грузавікоў 25 кілямэтраў і для легкавых машынаў 35 кілямэтраў у гадзіну...

„Многія ўчасткі нашых дарогаў пакуль праходзяць у нулявых адзнаках, адхоны стромыя, многа лепшага пакідае жадаць роўнасьць палатна. Нават на лепшых магістралях ёсьць вучасткі з хвалістасьцю. На іх вадзіцель вымушаны збаўляць хуткасьць, каб унікнуць трусаў і заносаў машыны. Ці ня час роўнасьць прыняць за галоўны паказчык якасьці дарогаў? Інжынеры распрацавалі нямала прыладаў для вызначэньня роўнасьці, але імі ў нас чамусьці не карыстаюцца...

„Ужо цяпер, калі парк уласных легкавых аўтамабіляў дасягнуў у рэспубліцы 30 тысяч, на многіх дарогах рух у гадзіны пік ускладніўся." (Васіль Лазарэтаў. Чалавек, аўтамабіль, дарога. „Полымя", 1970, № 7).

**Паясьненьне:** Дзеля параўнаньня з 30 тысячамі легкавых аўтамабіляў, што налічваюцца ў БССР на больш як 9 мілёнаў жыхароў, падаём, што ў Амэрыцы (якую Саветы ўсё „даганяюць і пераганяюць") налічваецца 84 мілёны легкавых аўтамабіляў на 205 мілёнаў жыхараў. У кастрычніку сёлета Дэпартамэнт Гандлю ЗША падаў (гл. „Н. Ё. Таймс", 20. X. 70), што ў Амэрыцы цяпер 29,3% сем'яў маюць больш чымся адзін свой аўтамабіль. Цікава таксама, што калі ў Беларусі сярэдняя хуткасьць легкавое аўтамашыны — 35 кілямэтраў на гадзіну, дык у Амэрыцы — 60 міляў на гадзіну, г. зн. больш за 90 кілямэтраў. Вось паспрабуй дагані й перагані...

## „ХАЎРУС" АДНАВІЎ СВАЮ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

У Францыі пасьля Другой сусьветнай вайны эміграны з усходняе й сярэдняе Эўропы хоць і мелі шмат розных арганізацыяў, але іхнае арганізацыйнае жыцьцё найбольш канцэнтравалася каля Сындыкату Хрысьціянскіх Работнікаў, бо гэта значна спрошчвала адміністрацыйна-праўныя фармальнасьці. У Сындыкаце Хрысьціянскіх Работнікаў было 12 нацыянальных сэкцыяў, між імі — беларуская. Але тры гады таму Сындыкат пайшоў далёка налева, адкінуў навет назоў „Хрысьціянскі", замяняючы яго на „Дэмакратычны". Хутка пасьля гэтага ўсе сэкцыі эміграцыйных работнікаў, у тым ліку й беларуская, спынілі сваю дзейнасьць. Але арганізацыйнае беларускае жыцьцё ня спынілася. Некаторы час яно канцэнтравалася пры Беларускім душпастырсьцьве ў Парыжы, а сёлета, згодна з агульнаю думкай сяброў арганізацыяў, адноўленая дзейнасьць найстарэйшае беларускае арганізацыі ў Францыі, залегалізаванае францускімі ўладамі 23. 3. 1931 г., Аб'еднаньне Беларусаў у Францыі „Хаўрус". Спачатку была выбраная часовая ўправа для заладжаньня фармальнасьцяў, а 4-га кастрычніка сёлета адбыўся агульны сход „Хаўрусу", на якім выбраная Галоўная ўправа ў наступным складзе: старшыня — праф. М. Наўмовіч, сакратар — а. архім. Леў, скарбнік — інж. Л. Шыманец. Наглядная Рада — сябры: сп. Ул. Шыманец, сп. В. Дубоўскі і сп. В. Жаўняровіч. Пры гэтым былі высьвятленыя ўсе фармальныя й матар'яльныя справы арганізацыі. Адрыс „Хаўрусу" застаецца той-жа, што й калісь:

Union Biélorussienne en France "Chaûrus", 65 rue des Gravilliers, Paris 3-e, France. (аЛ).

# З ПАДАРОЖЖА ВАКОЛ СЬВЕТУ

## 3. У ВАРШАВЕ

Варшава — горад, дзе радзіўся, жыў, дзе апошнія перад вайною гады вучыўся й працаваў, зь якім разьвітаўся ў ліпені 1939 году, выяжджаючы на лета да Францыі, і якога ўжо больш не пабачыў. Ня дзіва, што хваляваўся й цешыўся, калі ўзноў пасьля 30 год у ім апынуўся.

Рух, заліты сьвятлом новы й прыгожы аэрадром, знаёмая гутарка й ветлівая абслуга падбадзёрвалі мяне. А ўжо зусім абрадвала сустрэча із сваякамі, што сваім самаходам прыехалі спаткаць мяне. Гэта была першая цёплая сустрэча пасьля дзевяцёх самотных прыпынкаў на папярэдніх аэрадромах. Але мела яна й свой мінус, бо за гутаркай, хаця цікавай і прыемнай, ня меў амаль магчымасьці разгледзецца, пабачыць, што вакол мяне дзеіцца.

За ня цэлыя паўгадзіны мы ўжо на месцы — у трохпакаёвым памешканьні, у якім жылі дзьве чужыя сабе (і даволі варожыя — дзе-ж у згодзе жыць у гэткіх абставінах?) сям'і. Тут адразу спаткаўся з аднэй з балячак Варшавы, Польшчы дый, здаецца, усіх падсавецкіх краёў — жыльлёвым крызісам. Хаця будуецца шмат новых дамоў, ня могуць яны задаволіць патрэбаў жыхарства. Людзі чакаюць гадамі на пакой, не гаворачы пра колькіпакаёвае памешканьне. Калі хто мае грошы, можа купіць сабе памешканьне. Але колькі-ж такіх, што маюць грошы? Да нармальных амаль зьяваў належыць факт, што разьведзеныя сужэнствы яшчэ гадамі змушаныя жыць у вадным супольным, часта і прахадным пакоі. Таму шмат людзей вольны свой час так ахвотна праводзіць паза домам, асабліва ў часе сваіх „голідэяў", калі стараюцца кудысьці выехаць.

Другой праблемай-балячкай, аб якой хутка пераканаўся, была параўнальна нізкая заработная плата, што змушала амаль усіх у сям'і працаваць, каб неяк пражыць. Але дачыненьні да самой працы, як-бы ў супрацьвагу афіцыйным і скрозь паўтараным словам, вытварыліся зусім адваротныя. У гутарках часта чуў, што, маўляў, дурань працуе, а чалавек разумны гэтак стараецца ўлажыць жыцьцё, каб і бяз працы ці прынамся з найменшым высілкам пражыць. Затым розныя камбінацыі й навет ашуканствы сталіся штодзёншчынай жыцьця. З гэтым вяжыцца і прыналежнасьць партыйная, што адчыняе дзьверы да становішчаў і ўлады. Пры цэнтралістычнай сыстэме, калі шматлікія ня хочуць браць адказнасьці за дэцызіі, стварыўся „бюракратычны лес", дзякуючы якому, дзеля палагоджаньня часта й дробязі, ня толькі трэба нахадзіцца, але й начакацца, што йшчэ больш абцяжарвае жыцьцё.

Раніцай наступнага дня, 17 ліпеня, перажыў другую прыемнасьць: меў першы тэлефанічны кантакт з Бацькаўшчынай — гутарыў з Маткаю й сястрою, вітаючы першую з 82-мі ўгодкамі ад нараджэньня. Паколькі ў сваякоў у Варшаве і ў сястры ў Ваўкавыску былі тэлефоны, дык па замаўленьні доўга не чакаў на спалучэньне. Хаця напісаў сваім, што адлятаю, із дарогі выслаў даволі картачак (атрымалі іх значна пазьней), гутарка тэлефанічная іх заскочыла й як-жа ўсьцешыла! Гутарыў яшчэ потым колькі разоў і за кажным разам узаемна перажывалі мы моцна гэтае „збліжэньне".

Пасьля першай тэлефанічнай гутаркі, як толькі стрыечная сястра з мужам паехалі на працу, зь іхным сынам паехалі мы ў горад павітацца з Варшавай, а галоўнае — заскочыць да Савецкае Амбасады й даведацца аб магчымасьцях наведаньня Бацькаўшчыны. Была пагода добрая й Варшава ў гэтым часе прэзэнтавалася таксама вельмі добра. Скрозь чыста, шмат зелені. На шырокіх вуліцах поўна людзей, даволі добра апранутых. Новыя, колькіпавярховыя, вялікія, ясныя з балькёнамі й кветкамі дамы. Шмат прыпамінаў сабе старога, але найбольш было новага, пасьля вайны пабудаванага, а найчасьцей паводля старых узораў адбудаванага, што пацьвярджала любасьць варшавякаў да сваёй мінуўшчыны.

На даўным Саскім Плацы, а сяньня „Пляцу Вольнасьці", дзе калісьці стаяў праваслаўны сабор — памятка царскае Расеі, узвышаўся над Варшавай ведамы Палац Культуры й Штукі, Новы Сьвят, Кракоўске Пшэдмесьце, Маршалкоўска, як і калісь, засталіся сэрцам Варшавы. Імі да Бэльвэдэрскай вуліцы даехалі трамваем. А там зараз-жа сярод парку і Савецкая Амбасада.

У консулярным аддзеле людзей было ня шмат. Частка старалася атрымаць дазвол наведаць СССР, другая (як-жа розьнілася ад першай!) — палагодзіць фармальнасьці па вароту ў СССР ці старалася прадоўжыць свой побыт у Польшчы. Маладая сакратарка, даволі ветлівая, парасейску ці папольску, старалася задаволіць кліентаў. Мне ўдалося даволі хутка пагаварыць навет з самым консулем. Нічога аднак мне не абяцаў, пакуль ня прынясу „запрошаньне", якое сястра ўжо выслала за некалькі дзён перад маім прыбыцьцём у Варшаву.

Чакаючы й дэнэрвуючыся, адпачываў у сваякоў ды аб'яжджаў Варшаву й аколіцы, а перадусім даведваўся ў Орбісе, якія меў магчымасьці, як турысты, пабачыць Беларусь. Рабіў гэтыя захады на выпадак, калі-б не атрымаў афіцыйнае візы ў БССР. І магчымасьці былі, калі-б пачакаць штонайменш тыдзень на палагоджаньне фармальнасьцяў ды аплаціць далярамі вызначаную (даволі высокую) за кажны дзень аплату 1-ай ці звычайна турыстычнай клясы. Але мог-бы паехаць толькі ў Менск і туды запрасіць сваякоў на спатканьне.

У сыботу 19 ліпеня ўрэшце атрымаў жаданае „запрашэньне". Адразу паехаў у Савецкую Амбасаду. Нажаль, у сыботу консулят быў зачынены. Тады затэлефанаваў да консуля. Удалося зноў пагутарыць зь ім. Адказаў, каб прыехаць у панядзелак 21 ліпеня. Зноў трэба было чакаць. Выкарыстоўваючы вольны час і нагоду, выбраўся із сваякамі іхным самаходам да Аўгустоўшчыны, над граніцу БССР зь Літвою. Была вельмі добрая нагода прыглядзіцца прыгожай тамашняй прыродзе — лясом, палём, вазёрам, як і жыцьцю мясцовых людзей, што працавалі на сваіх гаспадарках. А працавалі скрозь шчыра, навет ноччу (бо на сваім), стараючыся выкарыстаць і час і пагоду і ўсе куточкі вольнай зямлі. І пераканаўся, што яны цяпер жылі лепш, як раней да вайны.

21 ліпеня раніцай цягніком праз Беласток вярнуўся да Варшавы, пакідаючы сваякоў яшчэ на тры дні ў Аўгустоўшчыне. У консуляце ўжо быў раненька. Прынялі мае паперы і пасьля даўжэйшых высьвятленьняў сказалі прыйсьці па адказ за два дні — 23 ліпеня, бо мелі яшчэ тэлефанічна з БССР упэўніцца, ці мае „запрошаньне" ў парадку.

З консуляту вяртаўся з надзеяй. А было гэта 21 ліпеня, памятнага дня, калі амэрыканскія астранаўты (Аполё 11) першымі прылуніліся на месяцы. Гэтага дня забыць нельга. Гэтага дня Варшава, разэнтузіязмаваная, перажывала можа яшчэ больш сваю радасьць, чымся Амэрыканцы. Вуліцы былі поўныя. Перад Амэрыканскай Амбасадай, дзе праз ноч з 20 на 21 ліпеня й праз цэлы наступны дзень высьвятлялі фільмы з падарожжа Аполё 11, амаль пры вуліцы дэманстраваўся мадэль апарату, якім Армстронг з Альдрынам апусьціліся на месяц і ў якім, колькі гадзін пазьней, адарваліся ад яго, каб злучыцца з капсулям і шчасьліва вярнуцца на зямлю. Варшаўская тэлевізія поўнасьцяй трансьмітавала амэрыканскую перадачу. Дык хто толькі мог, сядзеў пры тэлевіжары й піў за здароўе Амэрыканцаў ды толькі аб іх і гаварыў.

22 ліпеня, назаўтрае пасьля слаўнага вычыну Амэрыканцаў, Варшава й уся Польшча сьвяткавалі 25-ыя ўгодкі Польшчы „Людовай". Гэты дзень мне таксама добра запамятаўся, асабліва вайсковы парад на Пляцы Вольносьці, перад Палацам Культуры і Штукі, дзе на галоўнай трыбуне побач партыйных вяльмож Польшчы з Ул. Гамулкам на чале, былі прадстаўнікі трох (толькі) „братніх" суседніх дзяржаваў: СССР з Брэжнёвам і Падгорным, Чэхаславаччыны з Гусакам і Свабодай ды Усходняй Нямеччыны зь менш важнымі пэрсонамі (прозьвішчаў ня памятаю).

Гэтак зьлажылася, што ўсе гэтыя тры дэлегацыі асабіста я бачыў каля Савецкай Амбасады 21 ліпеня, калі прыяжджалі чорнымі лімузынамі зь лётнішча ў вялікай асысьце вайсковых ахраньнікаў, і 23 ліпеня, калі ад'яжджалі на лётнішча, вяртаючыся пасьля польскіх урачыстасьцяў дамоў. Паколькі пагода ў гэты дзень не ўдалася, у слаўным парадзе вайсковым лётніцтва ўдзелу не ўзяло. Не зважаючы на гэта, парад быў надзвычай удалы і можа найлепшы, які я ў сваім жыцьці бачыў.

23 ліпеня раніцай зноў чакаў на адчыненьне консуляту. І як-жа хутка ўцешыўся, атрымаўшы візу на ўезд у БССР, каб наведаць Матку ў Ваўкавыску. Выбіраючыся, амаль скакаў з радасьці. Гэнага дня парабіў яшчэ дробныя пакупкі, загадзя купіў за даляры (толькі) білеты на цягнік да Горадні й назад да Варшавы, спакаваўся і ўжо думкамі быў на Бацькаўшчыне.

(Далей будзе)

М. Н.

*Уладыслаў Нядзьведзкі*

### ВУЗЛЫ

*У жыцьцёвай складанай гонцы*
*Я часта раблюся наіўным:*
*Прывязваю промні сонца*
*Да зьнявечанай бурай галіны.*
*Мураўіную зьвязваю сьцежку*
*З дарогай, што даль расьсякае,*
*Хоць гэта адны ўсьмешкі*
*У сяброў маіх выклікае.*
*Рукамі, што хлеб здабылі мне*
*І водзяць па хвалях човен,*
*Я зьвязваю позірк арліны*
*З паглядам вачэй крумкачовых.*
*Рукамі, што затрымцелі,*
*Адчуўшы далонь чужую,*
*Кожны нэрв свайго цела*
*З нэрвам тваім вяжу я.*
*Дажджоў красавіцкіх пасмы*
*Вяжу я з электрадротам,*
*Хоць ведаю: іх разьвязваць*
*Не давядзецца потым.*
*І нават канцы вяровак,*
*Што ў дол апускаюць труны,*
*Вяжу з тваім днём суровым,*
*Нібы абарваныя струны.*
*Нямала зьвязаў вузлоў я,*
*І моцных, і для прыліку . . .*
*Жыцьцё! Навучы мяне ў слове*
*Вузлоў навязаць вялікіх,*
*Такіх, як матросы ў моры*
*Вязалі пад рокат хваляў,*
*Такіх, каб ніякія штормы*
*Іх ніколі не разьвязалі . . .*

(„Літаратура і Мастацтва", 18 верасьня 1970).

### НЕМАТА

*Для раскрытай душы немата —*
*Гэта горш, чым вачэй цемната.*
*Немата, калі сэрца*
*Імкнецца крычаць,*
*А розум яго*
*Прымушае маўчаць.*
*Немата — гэта пошук*
*Патрэбнага слова,*
*Немата — то расстаньне*
*З матулінай мовай.*
*Немата — калі ў ліры*
*Ірвецца струна,*
*Калі думак тваіх*
*Замірае рака.*
*То хвіліна, калі,*
*Як удар пяруна,*
*Напісаны верш*
*Забівае рука.*

(„Літаратура і Мастацтва", 18 верасьня 1970).

**Уладыслаў Нядзьведзкі** — нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Рахавічы Салігорскага раёну. Узгадоўваўся ў Мікашэвіцкім дзіцячым доме. Скончыў філялягічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску. Настаўнічаў на Лагойшчыне, працаваў на Менскай студыі тэлебачаньня і ў рэдакцыі часапісу „Маладосьць". Аўтар сямі кніг сваіх твораў.

### ЛЯТАРЭЯ КЛЮБУ „ПАГОНЯ"

Як і мінулымі гадамі, Беларускі Выдавецка-Мастацкі Клюб „Пагоня" ладзіць і сёлета лятарэю, якая будзе разыграная на Навагоднім Балю ў Тароньце сёлета. Цана аднаго лятарэйнага білету — 1 даляр. Даход зь лятарэі прызначаецца на гельскай і беларускай мовах, якая ўжо рыхтуецца да выданьня Клюбам „Пагоня".

Палавіна грошай з прададзеных білетаў (агулам 1.000) пойдзе на адзін выйгрыш. Прадавец выйгрышнага білету атрымае ўзнагароду ў суме 25 даляраў.

# АЙЦЕЦ ЯЗЭП ГЭРМАНОВІЧ

**(З НАГОДЫ 80-ЫХ УГОДКАЎ АД ЯГОНАГА НАРАДЖЭНЬНЯ)**

4 сакавіка сёлета а. Язэпу Гэрмановічу споўнілася 80 год жыцьця. На нас, што ведаюць бліжай Юбіляра, гэта накладае абавязак пазнаёміць беларускае грамадзтва з жыцьцём і творчасьцяй ведамага ўжо пісьменьніка, што праз сваю сьціпласьць памяншаў сваю ўзапраўды „ўдовіну ахвяру", падпісваючы свае цікавейшыя літаратурныя творы псэўданімамі Вінцук Адважны або Лявон Ветрагон. А справядлівасьць вымагае зьвярнуць увагу чытачоў, што а. Я. Гэрмановіч праз усё сваё жыцьвё быў перадусім сьвятаром і пры тым сьвятаром добрым, сумленным, які ніколі не адносіўся да сваіх абавязкаў абыякава, як кажуць, „абы збыць".

Таму й на літаратурную дзейнасьць праз усё сваё жыцьцё ён ніколі ня меў даволі часу. Фактычна пісаў ён толькі тады, калі хварэў або знаходзіўся ў падарожжы. Толькі ў вапошнім ужо часе, калі пасьля турмы й лягеру ён апынуўся сярод сваіх суродзічаў на Захадзе, ён атрымаў з гледзішча на эмэрытальны век і падарванае здароўе крыху большыя магчымасьці літаратурнае працы, як рэдактар часапісу „Божым Шляхам". Аднак і тут якраз у 80-ыя ўгодкі жыцьця на яго ўзложаныя абавязкі ігумена беларускага манастыра ў Лёндане.

Калі-ж наш Юбіляр патрапіў напісаць гэтулькі, што аж стаўся ведамым усяму грамадзтву, дык гэта сталася толькі дзякучы ягонай вялікай працавітасьці ды нязвычайнай здольнасьці выконваць шмат працы ў рэкордна кароткім часе.

Айцец Язэп Гэрмановіч нарадзіўся 4 сакавіка 1890 году ад бацькоў Станіслава й Ганны з дому Савіцкіх у мястэчку Гальшаны Ашмянскага павету. Пасьля сямёх год хлапец пачаў гэтак ірвацца да веды, што маці зрабіла ўсё магчымае, каб сын мог хадзіць у пачаткавую гальшанскую школу. Зімою хлопец хадзіў у школу, але вярнуўшыся дамоў, трэба было памагаць рабіць рукавіцы, бо ў Гальшанах і дзеці ўжо памагалі зарабляць на кусок хлеба. А рукавіцы ў Гальшанах рабілі ўсе, ўсё мястэчка займалася гэтым рамяслом. Школа, як ведама, была расейская. Не зважаючы на ўсялякія цяжкасьці, Язэп скончыў гальшанскую школу з добрым вынікам. Было яму тады 12 гадоў.

Пасьля гэтага „сямейная рада" наважыла аддаць хлапца ў шаўцы. Аднак сам Язэп, пачуўшы, што ў Ашмяне ёсьць вышэйшая,гарадзкая школа, пачаў гэтак супраціўляцца, што празь вялікія сьлёзы перамог усе перашкоды, і маці, хоць яе й страшылі, згадзілася паслаць яго на навуку ў Ашмяну. Тут малады Гэрмановіч першы раз ў сваім жыцьці спатыкаецца зь беларускім друкаваным словам: беларускі каталіцкі сьвятар Гуневіч дае яму й ягонай сястры Людвіні Багушэвічаву „Дудку".

Чатыры гады прабыў Язэп Гэрмановіч у гарадзкой школе. Скончыўшы яе, ён выбраўся пехатою ў Вільню, каб далей вучыцца на сьвятара. Перш чым быў прыняты фармальна ў віленскую каталіцкую духоўную сэмінарыю, праз тры гады ён разам з Кастусём Стэповічам — пазьнейшым сьвятаром і паэтам Казімерам Сваяком — кватаруецца й вучыцца ў Вільні ў сёстраў Шаблоўскіх. Хваробы й матарыяльныя нястачы ня зьбіваюць юнакоў з выбранага шляху. Каб здаць экзамен з лацінскае мовы на аптэкарскага вучня, яны мусілі ехаць аж у Пецарбург і там падгатаўляцца цэлых дзесяць дзён. Аднак памысна здаюць усе экзамены: Гэрмановіч на пяцёркі, хоць матэматыка заўсёды цяжка давалася яму. Стэповіч выказаў вялікія лінгвістычныя здольнасьці. І вось яны ў віленскай духоўнай сэмінарыі.

Хоць тагачасны арцыбіскуп Эдвард Роп і быў ведамы із сваёй прыхільнасьці да беларускай мовы ў сьвятынях, аднак дзеля ягонай адсутнасьці ў Вільні й дзеля перавагі польскіх прафэсараў, дух у сэмінарыі нацыянальна быў вельмі нездаровы. Не зважаючы на палянізацыю, усё-ж такі выйшла зь яе паважная колькасьць ведамых беларускіх сьвятароў. Сябрамі Гэрмановіча ў сэмінарыі былі, прача Стэповіча: Андрэй Цікота, Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Вінцэсь Гадлеўскі, Аўгустыновіч, Міхал Пятроўскі, Міхась Бобрык, Цыпрыян Лазоўскі. Усе яны, стаўшыся сьвятарамі, шмат папрацавалі для беларускага нацыянальнага адраджэньня.

У 1913 г. Язэп Гэрмановіч скончыў віленскую духоўную сэмінарыю і з рук летувіскага біскупа Каросаса атрымаў сьвятарскія сьвячэньні. Першую Божую Службу ён адправіў у Вільні ў касьцеле Сьвятога Духа ў асысьце сваіх выдатных сяброў Кастуся Стэповіча й Адама Станкевіча. Душпастырскую практыку малады сьвятар пачаў у Далістове Беластоцкага павету, як вікары сьвятара Гуневіча. Пасьля году духоўныя ўлады перавялі яго ў Беласток, пасьля ўзноў у Далістова, адкуль, пасьля далейшых перамяшчэньняў, трапляе ён у Крыпна, Мсьцібава, а ў 1919 г. у Вялікую Лапеніцу.

У часе Першае сусьветнае вайны, голаду, пошасьцяў і рэвалюцыяў сьвятарская дзейнасьць стаецца яшчэ больш цяжкай і адказнай. У Вялікай Лапеніцы, апрача звычайнае душпастырскае працы, ён закладае беларускую школу. У гэтым памагае яму спадарыня Краўчанка, якую аднак хутка Палякі арыштавалі, а сам Гэрмановіч быў таксама змушаны пакінуць Вялікую Лапеніцу.

У 1920 г. ён пераехаў у Луконіцу Слонімскага павету. Летам у тым самым годзе прыходзяць туды бальшавікі. Гэрмановіч быў тады цяжка хворы на дэзынтэрыю. Бальшавікі ўсёроўна яго арыштавалі. Але дзякуючы асаблівай Божай апецы ды стараньням вернікаў ён вышаў цэлым з бальшавіцкіх рук. У Луконіцы прабыў ён тры гады.

Усюды, дзе толькі працаваў а. Гэрмановіч, ён стараўся навучаць людзей праўдаў Божых у тэй мове, у якой яны гаварылі. Хоць гэта справа зусім натуральная і ў гэтым, здавалася-б, ніякае заслугі няма, аднак у гэным часе выступаць зь беларускім словам у касьцеле трэба было вялікае адвагі, проста гэраізму. Польскім урадаўцам і рознага тыпу мясцовым Палякам ці спольшчаным Беларусам гэта калола ў вочы й выклікала на а. Гэрмановіча нагонку.

З Луконіцы а. Гэрмановіч быў перанесены ў Лужкі, дзе прабыў толькі год, бо ўжо ў 1924 г. уступіў у закон Айцоў Марыянаў, якія ў гэным часе пачыналі сваю беларускую галіну ў Друі над Дзьвіной. З гэтым закончыўся ў жыцьці а. Гэрмановіча пэрыяд працы сьвецкага сьвятара, што трываў адзінаццаць гадоў.

У Друі невялікая грамада беларускіх Айцоў Марыянаў, спасярод якіх выдзяляліся асабліва Андрэй Цікота й Фабіян Абрантовіч, кіравала вялікай парахвіяй, каэдукацыйнай гімназіяй ды дапамагала ў працы суседнім парахвіям. Апрача таго, каб мець з чаго жыць і дапамагаць бяднейшай моладзі ў здабываньні асьветы, працавалася цяжка на зямельнай гаспадарцы.

Айцец Гэрмановіч, скончыўшы год навіцыяту, перш быў назначаны пробашчам у Друі, пасьля магістрам навіцыяту, а так-жа настаўнікам Закону Божага й лацінскае мовы ў гімназіі. Маючы вялікі пэдагагічны талент, ён умеў узгадоўваць хлапчукоў, зацікавіць іх і асабліва прышчапіць ім любасьць да роднай беларускай мовы, якую ў Польшчы тады перасьледвалі й якой навет ня было магчымасьці навучаць у самой друйскай гімназіі, дзе каля 90% вучняў былі Беларусамі.

На жаль, ня доўга працавалі разам беларускія Марыяне. У 1928 г. выехаў у Харбін а. Фабіян Абрантовіч, а ў 1932 г. яму на падмогу выехаў у Харбін і Язэп Гэрмановіч.

У Харбіне, хаця вонкавыя абставіны былі цалком розныя ад друйскіх, а. Гэрмановічу давялося рабіць у васноўным тое самае, што і ў Друі: узгадоўваць моладзь. Падарваўшы тут сваё здароўе, а. Гэрмановіч мусіў у сьнежні 1935 г. выехаць на адпачынак у Эўропу. Мы бачым яго ўжо ў 1936 г. рэктарам студэнцкага дому ў Вільні, дзе адначасна як Лявон Ветрагон захоплівае беларускіх чытачоў сваймі палітычнымі вершамі. Як кіраўнік Беларускага Марыянскага Дому Студэнтаў, ён рупіцца аб кантактаваньні сваіх гадунцоў з выдатнейшымі прадстаўнікамі беларускага грамадзтва. Ня раз пабывалі ў гэным Доме пры вуліцы Жыгімонта ў Вільні, нярэдка з рэфэратамі, гэткія ведамыя Беларусы, як кс. Адам Станкевіч, кс. Уладыслаў Талочка, Навіцкі, кс. Янка Семашкевіч (паэта Янка Быліна), Антон Луцкевіч, Антон Нэканда Трэпка, Янка Шутовіч, Лявон Дубейкаўскі, Максім Танк, Міхась Забэйда Суміцкі ды іншыя.

Віленскі Беларускі Дом Марыянаў быў запраўднай клетачкай беларускага нацыянальнага жыцьця. Была моладзь, кіпела праца. Аднак праіснаваў гэты Дом усяго тры гады. Польскія адміністрацыйныя ўлады, зьнішчыўшы беларускі манастыр у Друі, не далі магчымасьці для йснаваньня так-жа й віленскаму Дому. Айцец Гэрмановіч і ўсе студэнты сэмінарыстыя ў 1938 г. былі выселеныя ў цэнтральную Польшчу. Адтуль а. Гэрмановіч праз Рым узноў вярнуўся на працу ў Харбін. Працаваў там ён аж да 1948 г., калі кітайскія камуністыя яго разам зь іншымі айцамі й настаўнікамі гімназіі „ўкралі" й прадалі савецкаму МГБ. Падобна як і іншыя ягоныя сябры, а. Гэрмановіч быў завочна засуджаны на 25 год цяжкой прымусовай працы ў сібірскіх лягерах.

Бог аднак у сваім міласэрдзі скараціў гэны несправядлівы сталінскі прысуд да шасьцёх з палавінаю гадоў, і а. Гэрмановіч, хаця й зьнішчаны фізычна, аднак моцны й бадзёры на духу,у 1955 г. быў высланы савецкімі ўладамі ў Польшчу. Адтуль у канцы 1959 г. яму удалося вырвацца ў вольны сьвет. Тут ён і напісаў свае ўспаміны „Кітай-Сібір-Масква" і вялікі паэтычны твор — паэму „Князь і Лапаць".

Ужо само вельмі бурлівае й цяжкае жыцьцё нашага Юбіляра ня спрыяла ягонай літаратурнай творчасьці. Аднак не зважаючы на ўсё, спад ягонага пяра выйшла шмат твораў у форме паэзіі й аповесьцяў.

Аўцец Гэрмановіч пачаў пісаць заахвочаны аднэй паважнай нято гутаркай, нято спрэчкай з кс. Адамам Станкевічам, У вадказ на словы кс. Станкевіча: „Ну дык калі ты гэткі разумны, дык напішы сам і пакажы, як трэба пісаць!" Тады ён быў яшчэ пробашчам у Вялікай Лапеніцы. Першы ягоны артыкул быў надрукаваны ў віленскай „Крыніцы" ў 1919 г. пад загалоўкам „Хто мы?" Быў ён падпісаны псэўданімам „Хлопчык з пад Горадні". Пасьля таго ён ня рупіўся больш пісаць, аж пакуль не спаткаўся аднойчы з Максімам Гарэцкім. Ведамы пісьменьнік і крытык сказаў яму проста: „Ксёндз, ты мусіш пісаць! Грэх, калі ня будзеш!"

Гэтыя словы, як прызнаецца сам а. Язэп, канчальна пераканалі яго, што ён можа пісаць, а таму й павінен выкарыстоўваць кажную хвіліну, вольную ад абавязкаў, каб нешта тварыць.

Творчасьць Вінцука Адважнага, як найчасьцей а. Гэмановіч падпісваў свае творы, вызначаецца моцным патрыятызмам, глыбока рэлігійным настроем і пераважна чыста беларускім народным гумарам.

Дагэтуль зьявіліся ў друку асобнымі кніжкамі наступныя ягоныя творы: „Як Казюк зьбіраўся да споведзі"; „Казюкова жанімства"; „Як Ганудя зьбіралася ў Аргентыну"; „Адам і Анелька"; „Канёк-Гарбунёк"; „Унія на Палесьсі"; „Бэтлейка"; „Беларускія цымбалы"; „Хлапец"; „Кітай-Сібір-Масква"; „Князь і Лапаць".

У ўступным артыкуле да кніжкі „Беларускія цымбалы" кс. Адам Станкевіч гэтак адзываецца аб творчасьці Вінцука Адважнага: „Агулам Вінцук Адважны ў сваім паэтыцкім творстве стаіць на груньце несьмяротных ідэялаў Хрыстовай рэлігіі й этыкі, як-бы паказваючы гэтым найвышэйшую мэту мастацтва й паэтыцкай тэхнікі: з гэтых ідэялаў чэрпае паэтыцкае натхненьне, да іх кліча свой народ і ў іх бача непарушную веру ў пэўнае зьздейсьненьне беларускіх народных ідэялаў, бо справа народная ў Вінцука Адважнага — гэта частка справы Божай".

Успаміны „Кітай-Сібір-Масква" былі даручаныя Добраму Яну XXIII, які прымаючы а. Язэпа, казаў яму: „Не ўпадзі ўзноў у рукі тваіх ворагаў!".

Трэба яшчэ заўважыць, што шмат твораў а. Гэрмановіча загінула; асабліва шкада арыгінальных ягоных баек, а таксама й перакладзеных з Крылова, Красіцкага і іншых пісьменьнікаў. Усё, што было напісана ў Харбіне, там і засталося. Шкада й тых, часам навет геніяльных твораў, якія сам паэта асудзіў на спаленьне.

Канчаючы, зьвяртаем увагу чытачоў, што наш Юбіляр, каб адудзячыцца за памяць аб ягоным юбілеі, запоўніў цэлы 4-ы сёлетні нумар часапісу „Божым Шляхам", які ён рэдагуе, сваімі арыгінальнымі „Прыповесьцямі". Выказваючы яму ўдзячнасьць за гэты каштоўны дар, пажадаем яму словамі прадмовы да гэтых „Прыповесьцяў": „яшчэ большых посьпехаў на Беларускім Парнасе, дзе ўжо даўно ён займае паважнае месца".

**а. Тамаш Падзява**



**Уладзімер Шыманец — Стары Менск перад апошняй вайной**

### У ФРАНЦУСКІМ ДАВЕДНІКУ МАСТАКОЎ

Сёлета адно з парыскіх выдавецтваў выдала сьпіс усіх мастакоў жывапісу, графікі й іншых формаў мастацтва Францыі: Annuaire National des Beaux-Arts, 1969-1970. Даведнік мае тры тамы. У трэйцім томе пададзеныя імёны й адрасы беларускіх мастакоў Уладзімера Шыманца й Віктара Жаўняровіча. Імя Ул. Шыманца суправаджаецца фатаздымкам і кароценькім жыцьцяпісам. (аЛ).

### АБРАЗЫ СТ. ТАМАРЫ КОЛЬБЫ

Галерэя „Кутур'е", што знаходзіцца ў фашынэбэльнай частцы гораду Стэмфарду, штат Канэтыкэт, адзначае сваё 10-цігодзьдзе выстаўкай абразоў васьмёх мастакоў, сярод якіх — працы ведамае беларускае мастачкі Ст. Тамары Кольбы. На выстаўцы паказаныя два алейныя абразы, сем гравюраў, дрывары і адзін абраз камбінацыя рысунку й вадзяных хварбаў. Выстаўка адчынілася 4 кастрычніка й пратрывае да 30 кастрычніка.

## ДАКЛАД БІСКУПА ЧАСЛАВА СІПОВІЧА

10-га кастрычніка сёлета біскуп Часлаў Сіповіч прачытаў рэфэрат для сяброў і гасьцей Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку на тэму „Гісторыя лацінскага абраду на Беларусі". Як адзначыў дакладчык, пытаньне гісторыі лацінскага абраду на Беларусі распрацаваная яшчэ слаба, а ў сучаснай савецкай гістарыяграфіі не закранаецца зусім. Тымчасам дзеля разуменьня нашае мінуўшчыны пытаньне гэтае мае вялікае значаньне. Дасюль выяўленыя дакумэнты й матар'ялы паказваюць, сказаў дакладчык, што лацінскі абрад быў на Беларусі ўжо ў XIV ст., а ў наступных стагодзьдзях быў ладна пашыраны й зьвязваў Беларусь з культураю й думкаю Заходняе Эўропы. Тэму гэтую Уладыка Сіповіч мае ўжо даволі грунтоўна распрацаваную й спадзяецца неўзабаве апублікаваць у друку.

Цікавы даклад выклікаў шмат пытаньняў і жвавы абмен думкамі. Дыскусія, як адзначыў прэлегент, узбагаціла й дапоўніла тэму рэфэрату.

У нядзелю 11 кастрычніка Уладыка Сіповіч адляцеў у Лёндан.

## САЛЖАНІЦЫН — ЛЯЎРЭАТАМ УЗНАГАРОДЫ НОБЛЯ

Узнагароду Нобля ў галіне літаратуры сёлетняга году атрымаў ведамы апазыцыйны савецкі пісьменьнік Аляксандар Салжаніцын. Швэдзкая Акадэмія Навукаў, прызнаючы ўзнагароду Нобля, адзначыла „этычныя вартасьці твораў Салжаніцына, сугучныя традыцыям расейскай клясычнай літаратуры".

Цырымонія ўручэньня ўзнагародаў Нобля адбудзецца ў Штакгольме 10 сьнежня. Узнагарода гэтая выражаецца сумаю 78 тысячаў даляраў.

Як ведама, за свае апазыцыйныя да савецкае сыстэмы творы А. Салжаніцын быў летась выкінуты із Саюзу пісьменьнікаў РСФСР ды стаўся аб'ектам войстрых нападаў савецкае прэсы.

У 1965 годзе ўзнагароду Нобля атрымаў быў расейскі савецкі пісьменьнік Міхаіл Шолахаў за свой раман „Ціхі Дон". Гэтай узнагародай Шолахава Швэдзкая Акадэмія Навукаў старалася зацерці ўражаньне ад узнагароды кантравэрсыйнага для савецкіх верхаводаў пісьменьніка Барыса Пастэрнака ў 1958 годзе. Апошнімі гадамі Шолахаў пачаў займаць рэакцыйнае становішча ў дачыненьні да лібэральных плыняў у савецкай літаратуры.

Калі Барыс Пастэрнак атрымаў узнагароду Нобля за раман „Доктар Жываго", яго войстра заатакавала была савецкая прэса, што пісьменьнік змушаны быў адмовіцца ад узнагароды. Аляксандар Салжаніцын перадаў кароткую заяву газэце „Свэнска Дагблядэд", што ён узнагароду прыймае й маніцца прыбыць у Штакгольм, каб атрымаць яе асабіста.

Прысуджэньне Салжаніцыну ўзнагароды Нобля выклікала вялікую лютасьць сярод рэакцыйных савецкіх колаў, якія ня могуць ператравіць глыбокай сацыяльнай і людзкай праўды ягоных твораў, асабліва раманаў „Ракавы корпус" і „У коле першым". Абодвы гэтыя раманы ня былі надрукаваныя ў СССР, затое зьявіліся яны на розных мовах у краёх Захаду.

